




WE CAN BE HEROES



DC COMICS™

THE NEW 52!

7
$2.99 US/CAN

# BATMAN



SCOTT SNYDER
GREG CAPULLO
JONATHAN GLAPION

07
0 70989 30430 7
MAY 2012
RATED T TEEN

«НЕКАТОРЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ ВЕРЫЛІ, ШТО Ў МОМАНТ СМЕРЦІ ПРЫХОДЗЯЦЬ ВОБРАЗЫ».

«І НЕ ПРОСТА ВОБРАЗЫ З МІНУЛАГА, АБО ТОЕ, ШТО ВЯДОМА ТАМУ, ХТО ПАМІРАЕ...»

«...А ВОБРАЗЫ ТАГО, КІМ ЁН БЫЎ У ЖЫЦЦІ...»

ТАК...

...ТАК. БАЦЬКА, Я СТАНУ КАЖАНОМ.





«ЯНЫ ВЕРЫЛІ, ШТО ГЭТЫЯ АПОШНІЯ ВОБРАЗЫ ЧАСЦЯКОМ ВЫХОДЗЯЦЬ ЗА МЕЖЫ ТАГО, ШТО ВЯДОМА ТАМУ, ХТО ПАМІРАЕ...»
«...ШТО ЯНЫ ЎЯЎЛЯЮЦЬ З СЯБЕ ТАЕМНУЮ ПРАЎДУ ПРА ЯГО ЖЫЦЦЁ, ВЫКРЫЦЦЁ».
«НЕЙКІЯ ПРАЎДЫ БЫЛІ СЦЯШАЛЬНЫМІ... НЕЙКІЯ РАЗДЗІРАЛІ СЭРЦА».
«ТАК ЦІ ІНАЧАЙ, ГЭТЫЯ ВОБРАЗЫ ПАВІННЫ БЫЛІ ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ПАЧУЦЦЁ ЗАВЕРШАНАСЦІ, КАБ ЁН МОГ БЫЦЬ ПАХАВАНЫ, ВЕДАЮЧЫ ПРА СЯБЕ ЎСЁ МАГЧЫМАЕ».
«БАЧЫЦЬ СЯБЕ ТАКІМ, ЯКІМ ЁН БЫЎ У РЭЧАІСНАСЦІ. АДЛЮСТРАВАННЕ Ў ПАДПАЛЕНЫХ ВАЧАХ СВАЙГО БОГА».
«ВЯРТАЙСЯ!»

Я ВЕДАЮ, ТЫ ЧУЕШ МЯНЕ!
НУ ЖА!
АМАЛЬ, АМАЛЬ...
...У, Е!
НУ ЖА, ПРАЦУЙ, ПРАЦУЙ, ПРАЦУЙ!
ААААРГХХХ!
ZZZZZTT
СПЫНІСЯ!
ХТО ТЫ?!
ГЭТА ПРОСТА...


...Я.


ТЫ.


ПРАБАЧ...
АКРАМЯ ПРЫШЧЭПАК У МЯНЕ НІЧОГА НЕ БЫЛО. ТЫ ЗДАВАЎСЯ ПАМЕРЛЫМ, А ГЭТЫ ФУРГОН МАЯГО БОСА, І...
Я ЎЖО КАЗАЎ ТАБЕ...


...ПАКІНЬ МЯНЕ АДНАГО.
Я НЕ ЖАРТАВАЎ.


ВЫДАТНА, ХАРПЕР. БЭТ-ПРАВАЛ.


«АДНАК У ПАДАННІ ГАВОРЫЦЦА, ШТО КАЛІ ПАМІРАЮЧЫ СУПРАЦІВІЦЦА ВОБРАЗАМ, СУПРАЦІВІЦЦА ІМКНЕННЮ ДА ПРАЎДЫ І ВЯРТАЕЦЦА НА ЗЯМЛЮ ЖЫВЫХ...»
«...ЁН МОЖА ЗАЎВАЖЫЦЬ У САБЕ ВЯЛІКІЯ ЗМЕНЫ».

«І ТЫ – ТОЙ, ХТО
СТАІЦЬ ПЕРАД НАМІ –
БЕЗУМОЎНА ЗНОЙДЗЕШ
ЗМЕНЫ Ў САБЕ...»
«...І КАЛІ РАСПЛЮШЧЫШ
ВОЧЫ».
«ШТО ТЫ ЗАРАЗ
І ЗРОБІШ...»
...ТАК, РАСПЛЮШЧЫ ГЭТЫЯ ВОЧЫ ДЛЯ НАС. РАСПЛЮШЧЫ ВОЧЫ ДЛЯ ТВАЙГО СУДА!
ТЫ ПРАЙШОЎ ДАЛЁКІ ШЛЯХ АД РАКІ ЛЕТЫ, РАКІ ЗАБЫЦЦЯ, ДЗЕ БЛУКАЮЦЬ ЦЕНІ, НАЗАД У ГЭТЫ СВЕТ, У ГЭТЫ ГОРАД.
ГОТЭМ.
ТАК, ПАГЛЯДЗІ... ПАГЛЯДЗІ НА СВАЁ ЦЕЛА. ЯНО БЫЛО АДНОЎЛЕНА І СТАЛА МАЦНЕЙ, ЧЫМ РАНЕЙ. ЗНАЧНА МАЦНЕЙ.
ТЫ ВЫПІЎ З ЧАРЫ НЕЎМІРУЧАСЦІ. ЦЯПЕР ЦЯБЕ НЕМАГЧЫМА ЗАБІЦЬ. А ТВАЕ РАНЫ БУДУЦЬ ЗАЛЕЧВАЦЦА.
ТЫ ХУТЧЭЙ І МАЦНЕЙ, ЧЫМ КАЛІСЬЦІ.
АЛЕ І МЫ МАЦНЕЙ. ТВОЙ СУД. МЫ САБРАЛІ НАШЫ РЭСУРСЫ, НАШУ СІЛУ, І ЧАКАЛІ, ЯК ЧАКАЛА ВЯЛІКАЯ САВА – ВА ЎСІХ НА ВАЧАХ.
ДА ГЭТАГА ЧАСУ...
...ЦЯПЕР НАДЫШОЎ НАШ ЧАС, КАБ НАПАСЦІ... І ВЯРНУЦЬ ГЭТЫ ГОРАД...

«...І ВЫРВАЦЬ
СЭРЦА НАШАГА
ВОРАГА».
СТОП!
УВАХОД
ЗАБАРОНЕНЫ
НАЗАВІ
СЯБЕ!
ГЭТА...
Я.


МАЙСТАР БРУС!
БОЖА...
...КАЛІ Я ВЫЯВІЎ АДТУЛІНУ Ў ЛЬДЗЕ, Я ПРЫЙШОЎ ДА ВЫСНОВЫ, ШТО ВЫ ВЫБРАЛІСЯ З ГАВАНІ.
АДНАК КАЛІ ВЫ ТАК І НЕ З'ЯВІЛІСЯ, Я СПУЖАЎСЯ, ШТО АДЗІН З ВАШЫХ ВОРАГАЎ УВЕЗ ВАС І...
ГЭТА БЫЎ... НЕХТА ІНШЫ.


ПАРОЛЬ: «ФЭРБЭНКС».

НЕ...






ЁН МЁРТВЫ, СЭР.

МЫ ЗНАЙШЛІ ЯГО ЦЕЛА Ў ЛЕДЗЯНЫХ ВОДАХ, А КАЛЯ ЗНАЙШЛІ МАЛЕНЬКІ МАЯК З ВАШАГА ГАРНІТУРА.

Я ПРЫВЕЗ ЯГО ЦЕЛА Ў ПЯЧОРУ ДЛЯ АБСЛЕДАВАННЯ.

ДАЗВОЛЬЦЕ АДВЕСЦІ ВАС У МЕДПУНКТ.

НЕ.

АЛЕ, СЭР...




ЗІРНІЦЕ НА ЯГО ВЫГЛЯД.
ЯК І ВЫ, ЁН ТОЛЬКІ ВЯРНУЎСЯ НАВЕРХ З ПАДЗЕМНАГА СВЕТУ.
АЛЕ Ў ТОЙ ЧАС ЯК ВЫ ВЯРНУЛІСЯ МОЦНЫМІ, ЗНАЧНА БОЛЬШ МАГУТНЫМІ, ЁН ВЯРНУЎСЯ ЗЛАМАНЫМ І СЛАБЫМ.


МЫ ПРЫНЕСЛІ СЮДЫ ВАШЫЯ ДАСПЕХІ, ВАШУЮ ЗБРОЮ.
МЫ ПРОСІМ ДАЗВОЛІЦЬ НАМ УЗБРАІЦЬ ВАС, УЗБРАІЦЬ ДЛЯ БОЙКІ.
СЁННЯ НОЧЧУ МЫ ЗНІШЧЫМ НАШАГА ВОРАГА.


НЕ ПРОСТА ЗНІШЧЫМ, АЛЕ І РАЗАРВЁМ ЯГО.
ЧАСТКУ ЗА ЧАСТКАЙ.


І З'ЯДЗІМ ЯГО КОСТКІ.

БРУС?


Я ПРАСІЎ АЛЬФРЭДА...
СКАЗАЦЬ МНЕ НЕ ТУРБАВАЦЬ ЦЯБЕ? ВЕДАЮ, АЛЕ Я ХАЦЕЎ СПУСЦІЦЦА І ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА ЦЯБЕ.




БОЖА, БРУС. ШТО ЯНЫ... ЗРАБІЛІ З ТАБОЙ?




...І НЕ.

У ЯГО КЛЕТКАХ Я ІЗАЛІРАВАЎ НЕЙКАЕ ЗЛУЧЭННЕ. НЕШТА, ШТО СУД СУМЕЎ СІНТЭЗІРАВАЦЬ. І ЯНО ЗДОЛЬНА АЖЫЎЛЯЦЬ МЁРТВЫЯ КЛЕТКІ.

УВАСКРАШЭННЕ МЁРТВЫХ ЦЕЛ?

ТОЛЬКІ СПЕЦЫЯЛЬНА ПАДРЫХТАВАНЫХ.

ЯКІМ ЧЫНАМ?

У СУДА ЁСЦЬ СЛАБАСЦЬ ДА КЛАСІЧНАЙ АНТЫЧНАСЦІ. У СТАРАЖЫТНАЙ ГРЭЦЫІ ІСНАВАЛА ТРАДЫЦЫЯ, КАЛІ ПАД ЯЗЫК МЁРТВАГА КЛАЛІ МЯДЗЯК ПЕРАД ПАХАВАННЕМ. НІБЫТА ДЗЕЛЯ ТАГО, КАБ ЗАПЛАЦІЦЬ ЗА ПРАЕЗД У АІД.

ЧАСАМ У ЗАМОЖНЫХ БЫЛІ СВАЕ МЕДЗЯКІ, ВЫРАБЛЕНЫЯ З МЕТАЛА, ЯКІ ЗАВЕЦЦА ЭЛЕКТРУМ. ГЭТА СПЛАЎ МЕДЗІ І СРЭБРА З ВЫСОКАЙ ПРАВОДНАСЦЮ.




ДА ТАГО ЧАСУ, ЯК ЁН АДЫШОЎ АД СПРАЎ, ЁН СТАЎ ХАДЗЯЧЫМ ПРАВАДЫРОМ, ЯКІ ЧАКАЎ ІСКРУ ЗАПАЛЬВАННЯ. І З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ ХІМІІ, ГЭТА РЭЧ ІМ І З'ЯЎЛЯЛАСЯ.

ІСКРОЙ ДЛЯ ЗАПУСКА РУХАВІКА.

АТРЫМЛІВАЕЦЦА, ЯНЫ ВЫКАРЫСТОЎВАЛІ ГЭТЫ СКЛАД, КАБ АЖЫВІЦЬ ЯГО І ПРЫМУСІЦЬ ЗАБІВАЦЬ.

І ПЕРШАЙ ЯГО МЭТАЙ СТАЎ ЯГО БЫЛЫ ТРЭНЕР, НАША НЕВЯДОМАЯ АХВЯРА. У РЭШЦЕ РЭШТ, КАМУ ПАТРЭБЕН ТРЭНЕР, КАЛІ ТЫ МОЖАШ АЖЫВІЦЬ ЗОРКУ СПОРТА?

А ЯГО ВЫЛЕЧВАЮЧЫ ФАКТАР?

ЯК ТОЛЬКІ СКЛАД ЗЛУЧАЕЦЦА З КЛЕТКАМІ, ЯНЫ СТАНОВЯЦЦА ЗДОЛЬНЫМІ АЖЫЎЛЯЦЬ ЗНОЎ І ЗНОЎ.

ВОСЬ, ЧАМУ ЁН ЗМОГ ЗБЕГЦІ ПАСЛЯ ПАДЗЕННЯ З ВЕЖЫ УЭЙНАЎ.

І ЧАМУ ЁН ТЭХНІЧНА ДАГЭТУЛЬ ЖЫВЫ. ЧАМУ ЁН ЗАРАЗ НЕ АЖЫВАЕ?

ХОЛАД. СКЛАД ПЕРАТВАРАЕ ЦЕЛА Ў ПАДАБЕНСТВА ЗАВОДА ПА РЭГЕНЕРАЦЫІ КЛЕТАК НА ЭНЭРГІІ ЦЯПЛА.

КАБ ГЭТА СПЫНІЦЬ, ТРЭБА ЗНІЗІЦЬ ТЭМПЕРАТУРУ ЦЕЛА. ВЯРНУЦЬ ЯГО Ў ХОЛАД. Я ЎВЁЎ ЯМУ ЗАМАРАЖВАЮЧЫ РАСТВОР.

ТЫ ВЕДАЕШ ЯГО ІМЯ?

ТАК. ЯГО КЛІЧУЦЬ КОБ. УІЛЬЯМ КОБ.

ЁН ТВОЙ ПРАПРАПРАДЗЕД.


МОЙ...
МОЙ ХТО?


Я ЎЗЯЎ УЗОР ТКАНІН, ДЗІК.
І ТЫ НЕ ЗБІРАЎСЯ СКАЗАЦЬ МНЕ ПРА ГЭТА?


ТАМУ ТЫ ПРАСІЎ НЕ ТУРБАВАЦЬ ЦЯБЕ?


ГЭТА ТОЛЬКІ АДНА З ПРЫЧЫН.


І ТЫ НЕ РАСКАЖАШ МНЕ ПРА ІНШЫЯ, ТАК?
ХЕХ, КАНЕШНЕ Ж, НЕ.


ВЕДАЕШ, БРУС, Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО ТЫ ДУМАЕШ, ШТО АБАРАНЯЕШ МЯНЕ, КАЛІ ХАВАЕШ СВАЕ САКРЭТЫ.


АБО, ХУТЧЭЙ, ТЫ ХОЧАШ ДУМАЦЬ, ШТО ПА ГЭТАЙ ПРЫЧЫНЕ НЕ РАСКАЗВАЕШ НІЧОГА.
АЛЕ ДАВАЙ БУДЗЕМ СУМЛЕННЫ АДЗІН ДА АДНАГО, ЗГОДНЫ? ПРЫЗНАЙ, ШТО МЫ АБОДВА ВЕДАЕМ ЧАЛАВЕКА, ЯКОГА ТЫ НА САМ РЭЧ АБАРАНЯЕШ – ГЭТА ТЫ САМ.


АД ПАТРЭБЫ ПРАЯЎЛЯЦЬ КЛЯТЫЯ ЧАЛАВЕЧЫЯ ЭМОЦЫІ!


АЛЕ ТЫ НАВАТ НЕ ЎЯЎЛЯЕШ, ПРАЗ ШТО МНЫ ПРЫЙШЛОСЯ ПРАЙСЦІ ЗА АПОШНІЯ ТЫДНІ! НЕ ЎЯЎЛЯЕШ! З ЧЫМ МНЕ ПРЫЙШЛОСЯ МЕЦЬ СПРАВУ!


І ВОСЬ, ШТО Я СКАЖУ ТАБЕ, БРУС: КАЛІ ТЫ ДУМАЕШ, ШТО МОЙ ПРОДАК, ЯКОГА Я НАВАТ НЯ ВЕДАЎ, БЫЎ ЗЛАЧЫНЦАМ...


...І ШТО ГЭТА ХОЦЬ НЕЯК ЗАСМУЦІЦЬ МЯНЕ, ТАДЫ ТЫ НЯ ВЕДАЕШ МЯНЕ НА...

Я... Я ПАВІНЕН БЫЎ СТАЦЬ... КІПЦЮРОМ?

ТЫ ТАКСАМА ПАВІНЕН БЫЎ СТАЦЬ АДНЫМ З ІХ, ДЗІК.









ВЕДАЕШ, ДЗІК, ЧАСАМ НОЧЧУ, ПАД ЧАС ПАТРУЛЯ, Я АДЧУВАЮ, ЯК ГОРАД ГЛЯДЗІЦЬ НА МЯНЕ. Я ЗАЎСЁДЫ ЛІЧЫЎ, ШТО ЁН ПРЫГЛЯДАЕ ЗА МНОЙ, ЯК ПАРТНЁР, АБО НАВАТ ЯК ЧАЛЕЦ СЯМ'І...

...ТЫ СПЫТАЎ МЯНЕ, ШТО СУД ЗРАБІЎ СА МНОЙ.

ЯНЫ АДКРЫЛІ МНЕ ПРАЎДУ. ПАКАЗАЛІ, ШТО ГОТЭМ, ЯКІ, ЯК Я ЛІЧЫЎ, Я ВЕДАЎ, МОЙ ГОТЭМ... НЕ ІСНУЕ.

ЯНЫ ПАКАЗАЛІ МНЕ, ШТО ГОТЭМ, САПРАЎДНЫ ГОТЭМ, ГЭТА ГОРАД ПТУШАК, ГОРАД СОЎ.

ЁН НЕЗНАЁМЕЦ І ВОРАГ... ГЭТЫМ ЁН БЫЎ ЗАЎСЁДЫ.

І ВОСЬ ШТО Я СКАЖУ ТАБЕ, ДЗІК. КАЛІ Б ХТО-НЕБУДЗЬ АБАРАНІЎ МЯНЕ АД ГЭТАЙ ПРАЎДЫ, ТАДЫ Я БЫЎ БЫ ЎДЗЯЧНЫ ЯМУ.

ШТО Ж, ВОСЬ ПРАЎДА ДЛЯ ЦЯБЕ.

ТЫ ЎЖО МОГ ПАДЗЯЛІЦЬ БАКІ, ДЗЕ ЎСЕ МЫ, ПТУШКІ, НА АДНЫМ БАКУ, А ТЫ, КАЖАН, НА ДРУГІМ БАКУ. ХАЛЕРА БЯРЫ, ДА ТЫ, ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ, БУДУЕШ СЦЕНЫ НАПРАВА І НАЛЕВА.

АЛЕ НА САМОЙ СПРАВЕ, МНЕ ЎСЁ АДНО, КІМ БЫЎ МОЙ ПРОДАК, АБО КІМ ХАЦЕЎ БЫ МЯНЕ БАЧЫЦЬ САВІНЫ СУД. МЫ ІДЗЕМ ТЫМ ШЛЯХАМ, ЯКІ ВЫБІРАЕМ. МІНУЛАЕ НЕ ПАВІННА ВЫРАШАЦЬ, КІМ НАМ ТРЭБА СТАЦЬ.

САВІНЫ СУД – ГЭТА ЯШЧЭ АДНЫ ДРЭННЫЯ ХЛОПЦЫ, БРУС. ПРАЎДА, ТРОХІ ЗМРОЧНЕЙ АСТАТНІХ, І ЎСЁ.

ТАК, ТЫ ЗРАБІЎ ПАМЫЛКУ І НЕДААЦАНІЎ ІХ...


«...АЛЕ ЯНЫ НЕ ГОТЭМ, БРУС».
«ЯК І ТЫ».
ТАК, СЮДЫ!


ПАГЛЯ-ДЗІЦЕ!


ГЭТАЙ НОЧЧУ МЫ НЕ ТОЛЬКІ ЗНІШЧЫМ НАШАГА ВОРАГА, АЛЕ І ВЕРНЕМ НАЗАД СВОЙ ГОРАД!


МЫ ВЕРНЕМ НАШАЕ КАРАЛЕЎСТВА!

*Writer* SCOTT SNYDER *Pencils* GREG CAPULLO *Inks* JONATHAN GLAPION

# НАПАД КІПЦЮРОЎ

*Batman Created by* BOB KANE

*Colors* FCO *Letters* RICHARD STARKINGS & COMICRAFT'S JIMMY BETANCOURT

*Assistant Editor* KATIE KUBERT *Cover by* CAPULLO and FCO *Variant Cover by* DUSTIN NGUYEN *Editor* MIKE MARTS

НАПЕРАД! ІДЗІЦЕ І ЗАБЯРЫЦЕ ГОТЭМ!

ПРАЦЯГ БУДЗЕ!